МАРЫЯ БАРАВІК
НАРАДЗІЛАСЯ У 1946 ГОДЗЕ
У ВЁСЦЫ ПРЭАБРАЖЭНКА
ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ.
СКОНЧЫЛА
АДДЗЯЛЕННЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ
БДУ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.
ПРАЦАВАЛА
Ў ДОМЕ КУЛЬТУРЫ,
У РЭДАКЦЫІ РАЙГАЗЕТЫ.
ЗАРАЗ ПРАЦУЕ
У ДЗІЦЯЧАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ.
ДРУКАВАЛАСЯ Ў ЧАСОПІСАХ
«МАЛАДОСЦЬ», «РОДНАЯ ПРЫРОДА»,
У РЭСПУБЛІКАНСКІХ ГАЗЕТАХ.

* * *

У песні — свой агонь-сакрэт —
Прамень душы тваёй, паэт.
Ты думку накіруй, прастор,
У вышыню, да ясных зор.
Няхай яна адтуль услых
Імкнецца да паслуг зямных!

* * *

Сон ці ява сілы немагчымай —
У асеннім небе птушаня.
І смяецца сінімі вачыма
Залатая з твару цішыня.

Нейкі момант, і пайду з гары я.
А любоў, як птушка, на гару.
Мама у мяне была Марыя.
Залатым святлом яе гару.

Сум яе адлюстраваць мне нечым,
Толькі клёны млеюць на дварэ.
Памяць, дай мне ў сонцы чалавечым,
Як у гэтым полымі, згарэць!

* * *

Радзіма,
Неба вышыня
І нашых дум велічыня.
Нам трэба пакланіцца дню,
Таму сардэчнаму агню,
Якім жыве людская вечнасць.

Будзь блаславёнай, чалавечнасць!

### ЛЯ КАРЦІНЫ П. БЕЛАВУСАВА «МЫ ПОЙДЗЕМ ДРУГІМ ШЛЯХАМ»

У мужнасці — свая крыніца.
Ты — і галубка, і арліца,
Хоць роспач б'ецца над зямлёй,
Дзе золак сціснуты пятлёй:
«Як страшна у цябе, сынок,
Зямельку вырвалі з-пад ног...»

Ужо ні кроплі спадзявання.
Душа — раскованы адчай.
Жыве імпэт выпрабавання
У добрым сэрцы і вачах.

Балючая любоў бруіцца,
І ясніцца змагання час.
Стаіць другі ідэі рыцар —
Сынок Валодзя ля пляча.

## БАРОК

Недалёка ад горада Глыбокае, у сасновым лесе Барок, гітлераўцы хавалі свае ахвяры. Тут пахаваны таксама італьянцы, якія адмовіліся выконваць загады фашыстаў.

Барок зімовы, золкі і каляны
Каля магіл імённа-безымянных,
Нам памяць ціха затуманіць зрок.
Барок трагічны, горкі наш Барок!

Чытаў і ты гісторыю «Арміры».
Ці даляціць да сонца голас міру,
Ці вернецца цяплом да мацярок
Барок балючы, горкі наш Барок?

Трагічнае пасведчанне паляны.
Зямля вам пухам, дзеці італьянак.
Матулям вашым не пашле папрок
У мужнай скрусе сцішаны Барок.

Вайною неба ваша здратавана.
Вось тут усё, што вам наканавана:
Агульная зямля, траншэі, змрок...
Заледзянеў ад шэрані Барок.

Не будзе у Італію вяртання.
Зямля навек зацвердзіла братанне.
Было выпрабаванне, быў урок.
Барок трагічны, горкі наш Барок!

Сачыцца боль агульначалавечы
З галінак дрэў за вёскай Беразвечча.
А зло яшчэ нам не дало зарок...
Барок трывожны, мужны наш Барок!

## ЛЯ ЖВІРОЎНІ

Ля магілы ахвяр гітлераўскага фашызму пад вёскай Галубічы, дзе быў расстрэлены паэт Алесь Дубровіч (Аляксей Рэдзька).

Кручы, даліны, горкі —
Поле тваё, Галубічы.
Вынесу роздум горкі
Я, цішыню галубячы.

Памяць — жыцця жароўня,
Подых камення гарачага.
Смуткам каля жвіроўні,
Як вугальком, зазначу я:

Многа вас ці нямнога,
Толькі з усёй ваколіцы.
Вецер гуляе логам,
Траўка у ногі колецца.

Пэўна, шумяць таполі,
Што не засвецiць лета вам,
Як не узвысіць болей
Голас душа паэтава.

* * *

Нам гады лічыць, а не трывогі...
Толькі ў шчасці гэтай цішыні
ёсць святая памяць перамогі —
і травінка, як набат, звініць
за зялёны вецер над ракой
і за вечны на зямлі спакой.

* * *

...І Зямля, як вока міжпланецця.
А на ёй вірыцца наш паток,
А на ёй — маланка, гром і вецер,
А на ёй — жыцця адзін глыток.

Хоць бы нам не выйсці з азарэння,
Пакуль мы, як хвалі, не сплылі,—
Ёсць у нас шчаслівае імгненне
Толькі тут, на сонечнай зямлі.

Дзе любоў трывожная, як мора,
І баліць нам рана цішыні.
Ці узніме час зямныя зоры —
Чалавечай вечнасці агні?

Думкі-думкі,— памяць наракае,—
Захавайце сонечны настой.
Не пакрыўдзі, прыхамаць людская,
Мнагадзетнай, горкай і святой!

* * *

Мае бацькоўскія палі
Добразычлівы дождж паліў.
Дзе ёсць спакой,
дзе ёсць парадак,
Ва ўсіх — адна зямная радасць.

Мае бацькоўскія палі
Надзею на жыццё далі.
Я чую, як звініць прамень
І цешыцца блакітны дзень.

* * *

Заняты вочы нашы
зорнай вышынёй.
У вечнасці ж —
сваё выпрабаванне:
О, як дрыжыць прамень
над роднай цішынёй,
Дзе ёсць у кожнага
балючае змярканне.
Каб даражылі мы
адгэтуль вышынёй,
Каб хвалявала нас
адно пытанне:
Ці уваскрэснуць нам
у радасці сваёй,
Што мы, Зямля,—
тваё выратаванне?

* * *

Зямля мая, балючая планета,
Куды ж туга сцякаецца са свету?
Вясною зеляненоць курганы.
Зямля мая, ці злічаны яны?

І там, дзе ў цішы свеціцца планета,
Трывога пісьмы рассылае свету —
Вясною зеляненоць курганы,
Каб людзі адракліся ад вайны.

* * *

Мы на даверлівай зямлі
Даверлівае зерне сеем.
Тут нашы прадзеды раслі
І намі цешылі надзеі,
Што на спагадлівай зямлі,
Утульнай і добразычлівай,
Мы арасім жыцця палі,
Каб даць ім сілы урадлівай.
Мы на аблашчанай зямлі —
Яе удзячнае калоссе.
І сонца хмурыцца, калі
Зярнятка ветрыкам адносіць
На чужаземную раллю,
Бо там любоў не прарастае.
Калі пакінута святая —
Расці не коласу — быллю.
Ды ўсё ж, каб там жылі-былі
Дабру удзячныя надзеі,
Мы на даверлівай зямлі
Даверлівае зерне сеем.

ЛЯ ПОМНІКА

Жывым — вясна,
Жывым — жыццё і свята...
Ды нейчы родны татка і сынок
Стаіць між дрэў
над брацкім інтэрнатам.
А ля падножжа —
кветкавы вянок.

Так і жыве пад небам нерухома.
Так і дае нам знак —
прыцішыць крок.
Спыняемся балюча ля яго мы —
Узяць у горкай памяці урок...

## БАБІНА ЛЕТА

Там, на беразе, помнік,
А за берагам поле.
А за берагам гэтым
Ходзіць бабіна лета.

Ходзіць бабіна лета,
Ходзіць з добрай прыкметай,
Толькі вы не пытайце
Пра былое у маці.

Аб дубовае вецце
Б'ецца ў роспачы вецер:
Там, на беразе, сцюжа
І фуражка ад мужа.

Не пытайце ніколі
Пра жаночую долю.
Колькі бабіным летам
Была маці сагрэта.

Ёй маркотна і золка
Ды снуе, нібы пчолка.
Там, на беразе, поле,
Дарагое да болю.

Там, на беразе, помнік,
А за берагам поле.
А за берагам гэтым
Ходзіць бабіна лета.

## КАЗКА

Жыў лес жыццём і фарб і гукаў,
Раскрылена, зеленарука.
Прыйшла бяда: і дуб згарэў —
Маланка шаснула ля дрэў.

У дрэўцаў не злічыць апалін.
Пылок ад лісцяў, ад ігліцы.
Бярозкі чорныя пасталі,
Каб дубу ціха пакланіцца.

Агонь зжаваў сухое голле,
Злізаў зялёную палянку.
І сумна выбегла у поле
Сцяжынка — рыжая ляснянка.

Дзе дрэўца светлае журыцца,
Там рэчанька жывой вадзіцай
Між пальчыкаў зялёных рук
Самотна шэпча на кару:

— Вярба, схілі галоўку ніца —
Лес апаліла навальніца.
А дрэвы прагнуць круглы год
Дажджоў без вогненных грымот.

3 Зак. 642

* * *

Вітаю кожны светлы дзень,
Што рукі цёплыя кладзе
На травы, дрэвы і на хаты,
На луг і ўзгорачак пакаты,
На лес за срэбранай ракою,
На верасок і росны мох,
На рэчы ціхія ў пакоі,
На гладзь імклівую дарог.
Вітаю кожны светлы дзень,
Што рукі цёплыя кладзе
У пазалочаным палацы
На ўсе, як ёсць, прылады працы,
На ўсе, як ёсць, жывыя рэчы.
Вітаю гонар чалавечы —
Цябе, наш светлы, светлы дзень!
Няхай працуе твой прамень!

* * *

У птушаняці слабкае крыло,
Ды не аслабнуць здзіўленыя вочы.
Як запаветна лашчыцца святло
І песню мне узнёслую прарочыць.

Не шукаю думкай і душой,
Жыву адным святлом на белым свеце:
Паэзія мая — пачатак мой,
Спакой ласкавы і пяшчотны вецер.

Калі забудуць травы пра мяне
У нечувана светлым абнаўленні,
Удар, паэзія, па залатой струне
І абвясці маёй душы з'яўленне.

* * *

Роднае маё поле,
Цёплае маё поле,
Шчыра вітае неба
Дзень нараджэння хлеба.
Дзень нараджэння кветак,
Дзень уступлення ў лета,
Дзень выспявання жыта,—
Колькі з табой пражыта! —
Думкай не пераполеш
Сціплае сваё поле,
Шчодрае сваё поле
Шчасця, любові, болю.
Слёзы не пераведеш
Ветрыкам сухавеем,
Радасці не затушыш —
Свецяцца нашы душы.
Грэюцца сэрцы нашы,
Сілу тваю спазнаўшы,
Роднае маё поле
З кветкавага настою.
Вечнае і святое
Поле —
Жыццё
І доля.

* * *

Прытаміцца ветрык, хмаркі гонячы,
І блакіт пакажа галыша.
Як ныраюць дзьмухаўцы у сонечнасць,
Так іскрыць у яснасці душа.

Поле дзіўнай светласці і слодычы,
Залатога руху не аслаб.
Хай плыве майго натхнення лодачка
І спакой не выпусціць вясла.

Хай ускрыліць ветрык, хмаркі гонячы,
А блакіт люляе галыша.
Людзі, утрымайце гэту сонечнасць
У сваіх пяшчотных гладышах!

* * *

Кіну голас з роднага куточка:
Баравік шукайце у барочку,
У густым бярозавым шнурочку,
У лірычна-радасным радочку.
Ой, ты залатая баравінка,
Я цяпер твая напалавінку.
І трывога кажа — мала помнім...
А навошта мне душу таіць.
Я зраблюся самым светлым промнем
Там, дзе дрэўца памяці стаіць.

* * *

Гэта сіла — роднае паветра
Каля кветак, дрэўцаў і людзей.
Адчуваю я свой свежы ветрык,
Ёсць мне стаць і прытуліцца дзе.

Гэта мама блаславіла поле,
Дзе упала воблака ў расу,
Дзе пяшчота свеціцца на волі
І сцяжынка распляла касу.

* * *

Ля палочка — дзве пячуркі, нáры.
А за хатай гурбы, як валы.
Усю ноч мароз па сценах пярыў,
Як не адарваліся вуглы?

Хоць зіма вясёлая падзея,
І сняжыць, выбельвае зару,
А сцяна у хаце рашацее,
Кот залез у печ, як у нару.

І сяк-так ашушкалася мама,
Набірае бульбы у кашы.
Падміргнула цёпла печ на раму,
Пер'е аганёк разварушыў.

Мама грозна грукае заслонкай,
Качарга, вядома, не магніт.
Кот баранку выкруціў спрасонку
І гатоў самліцца на агні.

Бульбянога пару аж да столі.
Хоць спакусе нельга патураць,
Асіню вачмі маленькі столік
І прытруся зноў да каптура.

Паміж бэлек мох тапырыць вусы.
Не сапі, зіма, і не гудзі!
Насупроць маёй галоўкі русай
Зелянеюць вокны-медзвядзі.

* * *

Нас паветра душыць нашатырам.
Аганёк-грабеньчык у шчытку.
Дзень працоўны вушы натапырыў:
Падавай паяльніку жарку!

Не, не печка — доля шчэрыць зубы.
Ты ж цярпі і дзьмі на вугалі.
А тавар, як цацка,— глянуць люба —
На заказ: Давыдкі, Міхалі...

У бацькоў зусім прыслаблі вочы.
І бывае майстар сам не свой,
Хоць умела рубчыкі ён сточыць,
Тонкай ніткай выведзе прыпой.

І на рынку, у мароз на рынку,
Упрытоп ідзе гумовы бот.
Што ты піў?
І ці была скарынка?
І чаго народ разявіў рот?

Нам — на чорны хлеб таго даходу
(У мінулым гора-рамясло).
Гэта — цёплай памяці усходы.
Тое поле жытам парасло.

* * *

Яблынька-аблачынка,
Можа, як для кагосьці,
А для цябе дзяўчынкай
Буду я тут і госцем.

Можа, балюча голле
Вецер падчас кранае?
Толькі на родным полі
Моцна зямля трымае.

Толькі яна нямала
Сілы дала карэнню,
Бо і сама ты стала
Болем і прыцягненнем.

* * *

Вясна — у неба на прыкмеце.
Яе чуваць ужо здалёк.
Дзень добры, дрэвы, птушкі, дзеці
І смех, як белы матылёк!

Зямля пяшчотная выносіць
Травінкі цёплыя да ног.
Мне дзіўна мроіцца калоссе
Ля родных сцежак і дарог.

Адтуль мне шле сваю усмешку
Знаёмы зоркі васілёк.
І сніцца бацька на узмежку,
І хлеб, і белы матылёк...

Там мама блаславіла долю —
Глядзець на родную зямлю.
Паклон вам, горка, лес і поле!
Я сёння памяць бласлаўлю.

* * *

Тынком жалезным абнясла іх двор.
Ды не падняцца ім на грукат брамы,
І на далоні холад, як дакор.
І ні слядочка родных таты, мамы.

Схілю у смутку спелы каласок —
Расы сляза на каласок упала,—
І выдыхну на жоўценькі пясок:
Не ўшанавала, не уратавала...

* * *

Памяць мая, памяць...
Безліч астравоў
Праплыло над намі
З песняй жуліравоў.
Памяць паднябесся,
Яблыневы дым.
Жыў у ранняй песні
Лівень залаты.
Адшумеў у лісцях,
Адзвінеў у снах.
Ходзіць, як калісьці,
Па зямлі вясна.
Носіць думны колер
Дарагіх вачэй
Па-над родным полем.
А яшчэ?
Яшчэ:
Сон мяне пацешыў:
Не было бяды.
Хата.
Жыта.
Сцежка.
Родныя сляды.
Прызба.
Смех.
Гармонік.
Рэха на страсе.
Месяц у кароне.
Знічкі на расе.
Памяць, як імгліца.
Сны развеяў дзень.
Дзе ж мне тут спыніцца?
Азірнуцца дзе?
Дзе ж мне тут заплакаць?

Усміхнуцца дзе?
Радасць вунь на плаху
Галаву кладзе.
За суседняй вёскай
Вечны астравок.
Гавару з бярозкай,
Гавару з травой.
Ты усё мне, памяць,
Ясна абазнач.
Б'ецца зноў аб камень
Жураўліны плач.

* * *

Залатая згадка —
дзень аконца:
Дзе прысела хмарка на сасонцы,
Дзе сланечнік ціха выгнуў шыю,
Дзе старанна мама нешта шые
І пяе на рэйцы малаточак...
Як нястомна сніцца той куточак,
Дзе ў акне здзіўленне блісамінкі!..
У шчаслівай памяці — замінкі.
У балючай памяці — успышкі,
І прадуцца сны без перадышкі:
Змоўк на рэйцы бацькаў малаточак,
Спахмурнела неба сініх вочак...

Дай жа, дай мне згадку —
дзень аконца,—
Залатую хмарку на сасонцы!

## ГАДЗІННІК

Гадзіннік твой — на стале, тата,
А мне цябе не стае, любы...
Як прагнуць гутаркі шчырай губы,
Бо перадумана так багата,
Бо і у сне адчувальна страта,
Не паспрачаемся больш, мой родны.

Але прабач ты і мне, і брату,
Што, можа, у чым не былі мы згодны.
І, мабыць, тыя між намі спрэчкі,
Што здаваліся недарэчы,
Памяць абаім завастрылі,
На жыццё глядзець навучылі.

Гадзіннік твой на стале цікае.
А я маўклівая, ціхая —
Сачу упарта за стрэлкамі,
А стрэлкі у сэрца — стрэламі.
Як цябе не хапае, тата,
І тваіх далоняў шурпатых...

Але згадзіся, мой любы,
Мы моцна верым і любім...
Я крочу шляхам адзіным.
І ты прабач, што такая:
Што кожны дзень свой гадзіннік
З тваім, мой тата, звяраю.

* * *

Ціха па галоўцы
гладзіць дзень зара.
Першым сонцам коціцца
мама са двара.
Ціnькаюць вядзерцы
птушкамі вясны.
А маё дзяцінства
набірае сны.
Не паднесла вёдзерцы
мама пад гару.
І зарой, і месяцам,
і агнём гару.
Небам разлілася
маміна вадзіца.
І самой пара мне
сонейкам каціцца.

* * *

Мы ў пару маладога лісця
Упіліся высокім небам.
Было шчасцем на сцежку выйсці,
Калі пахла з кішэні хлебам.

Было шчасцем дзяліць гаркоту,
Як акрайчык той небагаты.
Было шчасцем сушыць ад поту
Гімнасцёрку і майку таты.

Было шчасцем да твару — тварам,
Калі ў твар маладзік над полем.
Было шчасцем аб шчасці марыць,
Як няшчасце прабіла болем.

Быў мне сілай твой родны голас,
Твая цёплая свежасць мовы.
Прыпадала ты песняй долу,
Рассыпала зярняты-словы.

* * *

Працягнула рукі да жыцця
Прагна і пяшчотна, як дзіця.
Цёплая зямля мая вясновая,
Зашапчы мне мамінымі словамі!

Высыпаюць травы на палі твае,
Цішыня звініць яе малітвамі.
Разумею, што выходжу з мая,
А душа расце — я адчуваю.

* * *

У дзень нараджэння болю,
У дзень майго пакарання,
Мне не спыніць ніколі
Гэты абвал світання,

Калі не выйшла ты з ночы
Насустрач новаму дню.
Не моляцца твае вочы
Сонечнаму агню.

* * *

Прыбіла восень да долу лісце.
З бяды сваёй ты не мела выйсця.
Аглухла песня.
Алё!.. Алё!..
Не адгукнецца.
Была...
Было...

Дык хто мне, мама, адчыніць дзверы?
Каму ж цяпер я сябе даверу?
Сцяло ў горле.
Алё!.. Алё!..
Занылі скроні:
Была...
Было...

А вочы родныя на партрэце
Святлей за радасць, за ўсё на свеце.
Чытаю позірк іх са стала:
«Мужней, дачушка, бо я — была».

## ІДУ АД МАМЫ

На гэтым полі і я павінна
Спяліць вынослівы колас.
Жыве мінута, жыве часіна —
Звініць мне ў травах твой голас:

«Як пырсне золатам на узмежак
Вясна у пчаліным гудзе —
Успыхне неба маёй усмешкай,
Цябе ад гора разбудзіць,

Скажы садам на ўсёй планеце,
Хоць яблыневай галіне,
Якую гойдаў маркотны вецер
І лісце губляў на тыне,

Скажы, дачушка, сівому бору,
Хоць падрастаючым дрэўцам,
Скажы:
як неба з зямлёй гаворыць,
То б'ецца матчына сэрца.

Скажы, дачушка, скажы у песні,
Што шлях да спакою адзіны...»

Іду ад мамы на вокліч весні,
Ад мамы і да Радзімы.

* * *

Былі і сад, і светлае аконца,
І ты была.
І твой зніжаўся дзень.
І праз аконца гэты дзень бясконца
Апошні раз на нас з табой глядзеў.

Ты бласлаўляла вечнасці праменні.
Ты бласлаўляла іскру ува мне.
І з вечнасці глядзіць тваё імгненне,
І тая іскра свеціцца ў акне.

## Я І ТЫ

Рада б устаці к свайму дзіцяці — не магу.
Сасновы дошкі сціснулі ножкі — не скрану.
Дубовы гвоздзі збілі галоўку — не узніму.
Зялёны дзярночак заціснуў грудзі — не уздыхну.

З народнай песні

Што ж ты плачаш, мая дачушка,
Мне ж, зямельцы, дажджоў даволі.
Уяві мяне, мая птушка,
Белай яблынькаю у полі.

Ці я зоркаю з неба гляну
За цябе, у бядзе бяскрылай.
Не гаіліся нашы раны,
Не стамлялася наша сіла.

Увабрала жыццё пакуты.
Мне здавалася — я са сталі...
Прытапталі, зламалі руту...
І бяда твае вочкі паліць.

Я — твой сум і адчай, дачушка,
І даруй, што табе балюча.
Прыгадай мяне, мая птушка,
І ляці ў блакіт гаючы.

* * *

Стань, лодачка, на хвалю руху,
Каб сіла светлага вясла
Праз ноч, праз роспач,
боль і скруху
Цябе да мэты данясла.

Бо ты — усё маё багацце.
Здаецца — неба пад рукой.
І трэба мне сябе не страціць
У моры яснасці людской.

Плыві на хвалі палахлівай,
Надзея на блакітны лёс.
Аднойчы я была шчаслівай,
Калі плыла паміж нябёс...

* * *

Святло надзённай пазалоты —
Агонь высокі і прамы.
Мая звычайная работа —
Акно да глыбіні прамыць.

Хай зрок не знае наракання.
Расці, мой дом, ясней, пакой!
Выразнасці перакананне —
Натхненне, радасць і спакой.

* * *

Бывае горка, ветрана і мулка.
Аднак блісне успышка адкрыцця:
Цячэ мая імклівая рачулка
У мора неабходнасці жыцця.

Прымі удзячнасць, сіняе паветра,
І дай мне самай звонкай цішыні,
Каб я пранікла ў залатыя нетры
Гаючай чалавечай дабрыні.

* * *

Неспадзеўка-мара,
мара — круча.
Як трывожна мне
і як балюча!
Можа, дні і цёпла
уплываюць...
Кружыцца у небе галава як!
Мая зорка —
там,
у вышыні.
А якой яна велічыні?

* * *

Было заручэнне з сонцам —
Ля ранішняга аконца.
І думку як ні крані —
Слова — на карані.
Як чуйна я прарастала
Пад промнямі пачуцця!
Так ці не так —
Звярстала
Старонку свайго жыцця.

* * *

Ты не крыўдуй, чалавек,
Што на світанні спяваю,
Тады, як сэрцу твайму
Нясцерпна сумна бывае.

Ты не крыўдуй, чалавек,
Калі вазьму засумую
Тады, як сэрца тваё
Нястрымана радасць хвалюе.

Але даруй, чалавек,
Калі мне боль не адужаць.
Усё ж прыходзь да мяне
Па веру, праўду і мужнасць.

* * *

Як часта б'ецца доўгі вечар
Крыло фантазіі маёй.
І зноў крутая супярэчнасць:
Мой лёс бяссільны перад ёй.

Ды толькі ёсць выратаванне:
Я кожны момант пазнаю,
Што не дыхнуць без хвалявання,
Пакуль жыву, пакуль пяю.

* * *

Зварухнула галіну
Прыбярэжнай каліны —
У рэчку ягады ўпалі,
Не сабраць на каралі.

Зварухнула галіну
Самай стройнай яліны —
Ўпалі слёзы зігліцы
У лясную крыніцу.

Зварухнула галіну
Дарагіх успамінаў —
Уздыхнула, як восень,
Замуцілася просінь.

## ВЫПРАБАВАННЕ

А смех умоўны быў.
Дарма.
Дарма.
Я адчуваю — тут мяне няма:
Каму на дзіва,
А каму на зло
У сэрцы боль завязаны вузлом.

У тлуме дзень закрэслены ізноў.
Узлом цярпення, блізіцца узлом.
Выпрабавання скончаны прабег.
Пайду прыціхну і знайду сябе.

* * *

Як аблачынка, белым-белы сад.
А падаў неаднойчы снег і град...
Вось так велікадушны чалавек
З удзячным сэрцам пражыве свой век.

Яго сваім пытаннем абміні,
Калі ён у маркотнай цішыні,
Рукамі абхапіўшы галаву,
Свой боль раптоўны выплача ў траву.

* * *

Веры было без меры.
Пільнасці не хапіла...
Толькі б намацаць дзверы,
Толькі б набрацца сілы.
Сонейка не асудзіць.
Рухі мае — дыханне...
Што, як не бог, а людзі
Стрэнуць сцяной маўчання?

## ПАРАНЕНЫ ВЕЧАР

Яна, як адчаю крышталік,
Па зыбкай люстры плыве.
А крык яе развітальны
На прыбярэжнай траве.

Зара у хвалі сцякае.
Качыны голас заціх.
А дзеткі маці чакаюць
Паміж сухіх чарацін.

Я ціха думку разбіла
Аб залаты беражок:
Дай мне руку тваю, мілы,
Яна трымала ружжо?..

* * *

Дзеці, дзеці!
Як удзячны мукі!
Вы — і промні нашых душ, і гукі.
І любіць, і цешыцца не грэх.
А дымок спаўзае з цёплых стрэх.
У палосцы сонца — лёгкі стрыж.
Які вечна светлы ты, малыш!
Дацягнуцца б нам да вышыні,
У якой цвітуць твае агні.
Апусціцца б зоркай да цябе
У сваёй пяшчоце-варажбе.
І тужыць, і плакаць нам не грэх.
Ці раскусім мудрасці арэх? —
Да твайго агню, тваіх нябёс
І дарослы, мабыць, не дарос.
Залатая, цёплая смуга.
Ці пытанне гэта, ці туга?..

* * *

Вылятаді мары, як жар-птушкі.
Даль дзяцінства як ні закрані,
Там гараць вясёлкавыя дужкі
У блакітнай нашай цішыні...

І ў родных косках будуць стужкі.
Цёпла і трывожна,
не да сну.
О, віркі вачэй маёй дачушкі,
Што вярнулі з выраю вясну!

* * *

Я чытаю казку пра лісу-хітрыцу:
Як ёй давялося пеўню пакарыцца.
А дачушчын пальчык па малюнках скача:
— Паглядзі, як зайчык адзінока плача...

Хатка лубяная, хатка ледзяная...
Разумець я нешта ціха пачынаю.

ДАЧУШКА

Ты — агеньчык з цёплага блакіту,
Ты — усмешка светлага аконца.
Ты — вірок крынічны ля ракіты,
Залатое, промністае донца.

Прыпадаю да цябе ў знямозе —
Доўга беглі дні на вадапой.
У святле-журбе і у трывозе
Прагна напаўняюся табой.

* * *

Мацярынства...
Ваша светласць, мукі...
Не пражыць без сонечнай зарукі.
Ах, дачушка,
Белы свет які!

Падтрымай жа смехам мой блакіт.
Я — вясна.
У радаснай сяўбе
Каб зярняткам хоць бы мне упасці.
Як узняць мне зорку для цябе
У святое наша неба-шчасце?

* * *

Сярод дажджоў, сярод слаты
Жыве праменьчык залаты.
Ці не да сонца на паклон
Нас кліча ён?

Знікае змрок, знікае дым.
Пасля бяды гарацць сляды.
Бяжым за імі наўздагон —
І толькі сон...

Ды ёсць бяда, бяда між бед:
Палае сонцам родны след.
Курган ад слёз, курган ад слёз
Травой парос.

І доўгі змрок, і халады...
Ідзём мы да людзей тады,
Каб у каго спытаць было
Нам пра святло.

О гэты промень залаты
Сярод дажджоў, сярод слаты!..
Ідзём да сонца на паклон
Па добры сон.

## МАЦІ ПАЭТА

Нараджаемся не для смерці,
Нараджаемся мы, каб жыць...
Леанід Якубовіч

Як нам марыцца, як нам марыцца
Тут, сярод людзей і надзей...
Толькі здарыцца, раптам здарыцца,
Што адзін з сяброў упадзе.

О, як многа нам перамроіцца
Там, дзе памяць след пракладзе!
Боль суцішыцца, рана згоіцца,
І пакліча зноў белы дзень.

Толькі ёй адной не засвеціцца
У аконцы промень святла.
Рукі — веццямі пераплецены.
І жыццё згарэла датла.

## ПАМЯЦІ ДРУГА

Што ж ты, дубок, не шуміш ані —
Склаў на грудзях галіны?
У панадворку у цішыні
Млее твая вярбіна.

І багамольна хата пяе.
Сёння ты з ёй у згодзе.
Толькі занылі рамонкі мае
З поля твайго, Валодзя.

У светлай і мройлівай варажбе
Мы адблукалі рана.
Позна прыйшла я ў госці к табе,
Грэшнік мой апантаны.

У абарону тваёй душы
Памяць шуміць зялёна.
І даравальна поўдзень дрыжыць
Скрухай і сінім лёнам.

Толькі зямля з-пад ног не бяжыць
У тваіх праважатых.
І засталася ў полі тужыць
Родная твая хата.

Долу схіліўся балючы дзень.
І мы над табой з павіннай...
Роспачна маці падушку кладзе
Сыночку у дамавіну.

Жвірам заплакаў дол баравы.
Месяц ты мой глыбокі:
Ціхі,
Далёкі,
Непаравы,
Вечны
　　　і адзінокі!

* * *

І ёсць дабро, і ёсць спагада,
Ідуць глыбока карані.
І крыўда ёсць.
А я так рада
Спазнаць пяшчоту дабрыні.

Давай, як хлеб, раздзелім радасць.
Разбудзім песню у глушы
Пра самы светлы наш парадак
У наваколлі і душы.

СІЎКА-БУРКА

Гуляе вольна конь уночы.
Пшаніца ў полі, нібы лес.
...Зірнуў хлапец каню у вочы
І ў вуха правае палез...

Іванку на кані грывастым
Да шчасця — хоць рукой падай.
І мне мой лёс у сне зашастаў...
Дзівак!
Бадай яго, бадай!..
А сэрца б'ецца гулка-гулка.
Стаю царэўнай ля акна.
Пасецца ў полі Сіўка-Бурка,
З пшаніцы грыва не відна.

* * *

Жыць можаш без мяне?
Жыві.
Не трэба пісем і спатканняў.
Былі чужымі па крыві.
Чужымі сталі па каханню.

Жыць можаш без мяне?
Жыві.
Ты мне нічога не павінен.
Смяецца колерам крыві
Тугая гронка на каліне.

Жыць можаш без мяне?
Жыві.
Але так сціснула дыханне.
Былі чужымі па крыві.
А па каханню?

* * *

Недзе нешта полымем гарэла:
Ці ўсход, ці, мабыць, снегіры...
Толькі раптам стала белым-бела
Ад расінак памяці ў бары.

Колькі грыбнікоў было няўмелых,
Непрыгодных на зямлі лясной!
Што яшчэ я вам сказаць хацела? —
Снег бялютка-белы пада мной.

І зара над лесам не згарэла.
Вунь яе разносяць снегіры...
Дык няхай вам будзе белым-бела
І зацішна у маім бары!

## АБНАЎЛЕННЕ

У тваім даверы — крыгалом.
Доўга цёплай рэчкі не было,
Ні імклівай хвалі, ні вясла,
Ні той лодкі, што дваіх нясла.

Хай на крыгу памяці прамень
Навядзе сваё цяпло прамей,—
У вясеннім небе праплыло
Белай згадкай нейчае крыло.

Пасвятлеў і твой далёкі цень.
І вярба, што над ракой расце,
Да вады свае галінкі гне,
Каб лічыць каменьчыкі на дне.

* * *

І зноў віхурыцца застолле.
Цябе я ў памяці хаваю.
А сум таксама хоча волі.
А хваля б'е берагавая.

І зноў твая імгла на просінь
Дыхнула ціха і трывожна —
Душа выратавання просіць
На нейкім горкім раздарожжы.

* * *

Ідуць дажджы тваіх надзей.
А за імглой схаваўся дзень.
Сярод зімы, сярод начы
Ідуць дажджы,
Ідуць дажджы.

Я чую, як звіняць яны,
Як узыходзяць травы-сны.
Сляды-дажджы,
Дажджы-сляды.
І хмара шызая, як дым.

І ты, народжаны дажджом,
У садзе, пад маім акном,
Ідуць дажджы тваіх надзей,
А кветка наша не расце.

На сцежцы люстраной — кругі:
Адзін, другі...
Адзін, другі...
І ў бяссонніцы-смугі
На твары пад вачмі кругі.

Паслаў мне лёс дажджы твае,
Але спакою не стае.

* * *

Было імгненне светлае. Але
Сум у вачах тваіх мне не балеў.
Бо ты прыйшоў з-пад цёплага крыла.
А я гнязда дагэтуль не звіла.

І я стаяла гордая, як воля,
Перад тваім незразумелым болем.
Было імгненне:
                    памяць расцвіла.
Калісь і ночка юнаю была.

* * *

Сумна яснее цёплая просінь.
Ка́ра твая — суровая,
                    восень:
Мала шаптала лісце
                    у садзе,
Што не сустрэне мяне —
                    мая маці.
Што ж ты яшчэ нарабіла, восень?..
У сэрца жар-птушку
                    мілы просіць.
А лісце зноў зашаптала
                    у садзе...
На голай галінцы
                    жар-птушка сядзе.

* * *

Паразышліся,
І калі нам
Зляцецца радаснай парой?
Ці як самотная каліна
Запунсавее пад гарой?

Ці як травінку-згадку долу
Прыгне світальная раса?..
Падорыць ноч ружовы золак,
А ты півоні з-пад крыса.

* * *

Страсу я лісце дум сваіх на дол.
Аддам вятрам, каб да цябе данеслі.
Скажы мне, хто ты:
голуб ці арол?
Ці журавель з маёй тужлівай песні?

А быў, як клёнік тоненькі між дрэў
Пад хмаркай, што засеяла імгліцай.
Было, што — я,
што ты мяне сустрэў.
Мы на адной зямлі, як дзве крыніцы.

За тую роспач восеньскіх начэй
Я назаву не раз сябе шчаслівай.
О, як мне сніцца сум тваіх вачэй
І рук тваіх святая палахлівасць!

* * *

Я ўсё аб тым, як светла мы хацелі,
Каб зноў прынеслі песню журавы.
Зямля скідае белыя пасцелі,
Узмежак просіць маладой травы.

Умыла твар вяснушчатае поле.
Калі прачнуўся і упіўся лес?
І люба нам грачынае застолле
На агародах чорных у сяле.

* * *

Залатыя вокны вясны
Абудзілі зімнія сны.
І зусім як добрыя вочы
За маімі думкамі сочаць.
А у думках нешта такое,
Як сустрэча неба з ракою...

* * *

Для некага дзянёк памаладзее.
А нейчы спелы яблык — на траве.
Шкада мне зноў таго,
чыя надзея,
Як лісцейка апалае, плыве.

Аб чым яшчэ асенняе надвор'е
Мне зашуміць самотна ў галаве?
Любі, душа, зялёнае сузор'е
І памятай пра яблык на траве.

* * *

Любоў бруіцца светла год за годам,
І рана мне пісаць асенні ліст...
Які балючы лік вядзе прырода —
Ляжыць сцяжынка рыжая, як ліс.

Ці гэта сон самотна-ачышчальны,
Ці дрэвы месяц выпілі з начы
І так глядзяць у сэрца развітальна,
Што можна клёнам позірк апячы.

Зайшлося неба смуткам на імгненне,
І толькі светла-светла ля зямлі.
Ляжыць слатою ціхае праменне
На елачках, на травах, на галлі.

У фарбах слоў душа ніяк не месціцца,
Зямля журбе падставіла прыпол.
І сыплецца, і падае, і свеціцца
Аплаканае золата на дол.

* * *

У цёплым марыве на ўсходзе
На сіняй лодцы лес плыве.
І неяк хістка у прыродзе —
Аж кружыцца у галаве.

Як ты не цеш вачэй світаннем —
А дзень?..
Ён коціцца з гары.
І хоча перад развітаннем
Лісток з лістком пагаварыць.

* * *

Росна-росна. Рана-рана.
На узмах крыла да дня,
Перад сполахам туману
Усміхнецца цішыня.

Зіхаткое неба — морам.
Хваля б'е да баравін.
Развітайся з цёплым борам,
Верасовы баравік!

## КАЛІНА

Хацела ты пахмяліцца
Зарой зіхоткай з начы,
Ды утапіла ў крыніцы
Пунсовы смех і маўчыш.

А можа, гэта бруіцца
Вірок зажураных дум? —
Я з гэтай самай крыніцы
Учора брала ваду.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Казачныя алені —
Яблыні у акне.
Ціхае абнаўленне.
Лёгкі наш першы снег.

Той, што так цёпла будзіць
Даўні дзіцячы смех.
Лашчыцца к добрым людзям
Ветлівы белы снег.

Дзень адышоў, і вочы
Зорна глядзяць у сне.
Нават глыбокай ноччу
Свеціць нам першы снег.

* * *

Гэтай ноччу не без дай прычыны
Прастудзіла ногі цішыня...
Бачыў месяц — смуглая дзяўчына
Закілзала рыжага каня.

Таямніча шаснула ля ганка,
Упусціла зманліва аброць.
І кіўнула ветрыку смуглянка,
Каб паспеў сцяжынку прапалоць.

* * *

Ты пяшчотныя словы кажы
Ад вясенніх дажджоў да імжы.
Ад імжы да вясенніх дажджоў
Буду жыць цеплынёй тваіх слоў.

Буду жыць чысцінёй тваіх слоў
Сярод дум летуценных і сноў.
Толькі шчырыя словы кажы,
Толькі сей мне пяшчоту душы,
Толькі будзь мне гаючым дажджом,
Зашумі над бядой і над злом,
Прасвятлі маіх думак смугу
І пачуцці, што я берагу.
Ты мне ясныя словы кажы,
Каб не ставіць на сонцы крыжы,
Засвяці з вышыні на расу,
На мае хваляванні і сум.

Ад імжы да вясенніх дажджоў
Буду жыць цеплынёй тваіх слоў.

* * *

Асенні колер —
Жоўтая завея,
І вышынёй сцвярджаецца блакіт,
Аблокі пахнуць асакой і глеем
І трызняць пра зімовы аксаміт.

Як атуліць цябе святлом вясенні́м?
Як падзяліць нам радасць напалам?
Душа палае колерам асенні́м,
Ды я табе блакітны свой аддам.

## ЗМЕСТ

*** У песні — свой агонь-сакрэт... . . . . . . . . 5
*** Сон ці ява сілы немагчымай... . . . . . . . . 5
*** Радзіма... . . . . . . . . . . . . . . . 6
Ля карціны П. Белавусава «Мы пойдзем другім шляхам» . . . . . . . . . . . . . . . . 6
Барок . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
Ля жвіроўні . . . . . . . . . . . . . . . . 8
*** Нам гады лічыць, а не трывогі... . . . . . 8
*** ...І Зямля, як вока міжпланецця... . . . . . 9
*** Мае бацькоўскія палі... . . . . . . . . . . 9
*** Заняты вочы нашы... . . . . . . . . . . . 10
*** Зямля мая, балючая планета... . . . . . . 10
*** Мы на даверлівай зямлі... . . . . . . . . . 11
Ля помніка . . . . . . . . . . . . . . . . 11
Бабіна лета . . . . . . . . . . . . . . . . 12
Казка . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13
*** Вітаю кожны светлы дзень... . . . . . . . . 14
*** У птушаняці слабкае крыло... . . . . . . . 14
*** Роднае маё поле... . . . . . . . . . . . . 15
*** Прытаміцца ветрык, хмаркі гонячы... . . . . 16
*** Кіну голас з роднага куточка... . . . . . . . 16
*** Гэта сіла — роднае паветра... . . . . . . . 17
*** Ля палочка — дзве пячуркі, на́ры... . . . . 17
*** Нас паветра душыць нашатырам... . . . . 18
*** Яблынька-аблачынка... . . . . . . . . . . . 19
*** Вясна — у неба на прыкмеце... . . . . . . . 19
*** Тынком жалезным абнясла іх двор... . . . . 20
*** Памяць мая, памяць... . . . . . . . . . . . 21
*** Залатая згадка... . . . . . . . . . . . . 22

Гадзіннік . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 23
*** Ціха па галоўцы... . . . . . . . . . . . . . 24
*** Мы ў пару маладога лісця... . . . . . . . . . 24
*** Працягнула рукі да жыцця... . . . . . . . . . 25
*** У дзень нараджэння болю... . . . . . . . . . 25
*** Прыбіла восень да долу лісце... . . . . . . . 26
Іду ад мамы . . . . . . . . . . . . . . . . . 27
*** Былі і сад, і светлае аконца... . . . . . . . 28
Я і ты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 28
*** Стань, лодачка, на хвалю руху... . . . . . . 29
*** Святло надзённай пазалоты... . . . . . . . . 29
*** Бывае горка, ветрана і мулка... . . . . . . . 30
*** Неспадзеўка-мара... . . . . . . . . . . . . 30
*** Было заручэнне з сонцам... . . . . . . . . . 31
*** Ты не крыўдуй, чалавек... . . . . . . . . . 31
*** Як часта б'ецца доўгі вечар... . . . . . . . 32
*** Зварухнула галіну... . . . . . . . . . . . . 32
Выпрабаванне . . . . . . . . . . . . . . . . . 33
*** Як аблачынка, белым-белы сад... . . . . . . . 33
*** Веры было без меры... . . . . . . . . . . . 34
Паранены вечар . . . . . . . . . . . . . . . . 34
*** Дзеці, дзеці!.. . . . . . . . . . . . . . . 35
*** Вылятаді мары, як жар-птушкі... . . . . . . . 35
*** Я чытаю казку пра лісу-хітрыцу... . . . . . . 36
Дачушка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 36
*** Мацярынства... . . . . . . . . . . . . . . 36
*** Сярод дажджоў, сярод слаты... . . . . . . . . 37
Маці паэта . . . . . . . . . . . . . . . . . . 38
Памяці друга . . . . . . . . . . . . . . . . . 38
*** І ёсць дабро, і ёсць спагада... . . . . . . . 40
Сіўка-Бурка . . . . . . . . . . . . . . . . . 40
*** Жыць можаш без мяне?.. . . . . . . . . . . . 41
*** Недзе нешта полымем гарэла... . . . . . . . . 41
Абнаўленне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 42
*** І зноў віхурыцца застолле... . . . . . . . . 42
*** Ідуць дажджы тваіх надзей... . . . . . . . . 43

*** Было імгненне светлае. Але... . . . . . . . . 44
*** Сумна яснее цёплая просінь... . . . . . . 44
*** Паразышліся... . . . . . . . . . . . . . . 45
*** Страсу я лісце дум сваіх на дол... . . . . . 45
*** Я ўсё аб тым, як светла мы хацелі... . . . . 46
*** Залатыя вокны вясны... . . . . . . . . . . 46
*** Для некага дзянёк памаладзее... . . . . . 46
*** Любоў бруіцца светла год за годам... . . . . 47
*** У цёплым марыве на ўсходзе... . . . . . 48
*** Росна-росна. Рана-рана... . . . . . . . . . 48
Каліна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49
Першы снег . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49
*** Гэтай ноччу не без дай прычыны... . . . . . 50
*** Ты пяшчотныя словы кажы... . . . . . . . 50
*** Асенні колер... . . . . . . . . . . . . . 51

**Баравік М.**

Б 24 Поле долі: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 54 с.— (Першая кніга паэта).

20 к.

Разуменне дабрыні, як самай неабходнай праявы ў адносінах паміж людзьмі — гэта той высокі маральны пункт адліку, з якім суадносіць паэтка свае шчырыя словы.

Хваляваннем і ўлюбёнасцю прасякнуты вершы, прысвечаныя маці, роднай вёсцы, добрым людзям.

Б $\frac{4702120200-052}{М\ 302(05)-85}$ 84—85

**ББК 84Бел7**

**Бел 2**

*Первая книга поэта*

Мария Боровик
(Мария Яковлевна Новикова)

ПОЛЕ СУДЬБЫ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак В. А. Стэфановіч. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 2149
Здадзена ў набор 15.08.84. Падп. да друку 26.12.84. АТ 06661. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,05. Ум. фарб.-адб. 3,51. Ул.-выд. арк. 1,83. Тыраж 2900 экз. Зак. 642. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.